# Ніва

Тыднёвік беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 29 (1012) ГОД XX 20 ЛІПЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


## СІМВАЛ ПУШЧЫ

— Вам драўляную статуэтку зубра? — перапытвае прадаўшчыца ў павільёне ЦЭПЭЛіА, што знаходзіцца ў Палацовым парку ў Белавежы. — Што вы! Няма! Недзе ў студзені месяцы было ў нас штук мо пяць, дык турысты адразу з рук у мяне вырвалі...

— Вырэзбленага зубра? Цяпер, у чэрвені?! — прадаўшчыца ў беластоцкім „Доме рамёстваў“ глядзіць на мяне так, як быццам я толькі што з месяца зваліўся.

Этнограф мгр Д. Гураль з беластоцкага праўлення ЦЭПЭЛіА інфармуе:

— З намі супрацоўнічаюць чатыры народныя разьбяры з Белавежы і ваколіц, якія вырабляюць рэзбленыя ў дрэве статуэткі зуброў. Гэта Яраслаў Смактуновіч, Уладзімір Наўмюк, Баляслаў Шляхцюк і Аляксандр Бялак. Іх вырабы — гэта дасканаласць!

У гандлёвым аддзеле праўлення мне сказалі, што ў мінулым годзе беластоцкая ЦЭПЭЛіА набыла ад гэтых разьбяроў 225 большых і 230 меншых статуэтак зуброў. Усе яны разышліся ў Беластоку, Варшаве, Гдыні, Свінавусці і іншых гарадах.

Прадстаўнік праўлення „Дома рамёстваў“ у Беластоку Г. Крывута ўскліквае:

— Белавежскія рэзбленыя зубры? О, гэта дасканалая рэч! Дастаўляюць іх нам 13 народных разьбяроў. Гэта мастакі сваёй справы! А пачыналася ўсё ў 1966 г. амаль на пустым месцы. Спачатку дастаўляў нам іх славуты тамашні разьбяр Аляксандр Гіголь, потым далучыўся да яго Сяргей Доўбыш. Іх вырабы адразу здабылі пакупніка, а турысты дык амаль біліся за іх. І цяпер яны — самы ходкі тавар. У год мы прадаем каля трох тысяч статуэтак на суму амаль 900 тысяч злотых. Дзе? Перш за ўсё ў 9 нашых магазінах, што знаходзяцца ў Беластоцкім, Ломжынскім і Сувальскім ваяводствах, а 40 працэнтаў іх ідзе ў Варшаву і ў гарады Узбярэжжа. Варшава дамагаецца, каб мы ёй пастаўлялі ў год найменш тысячу штук, а Узбярэжжа хоча тры-чатыры тысячы. Мы ж нават і палавіны таго не можам ім даць...

І вось я ў Белавежы. Урочышча Князеўка. Паказны запаведнік зуброў і лясных коней. З ранняй вясны і да позняй восені сюды прыбываюць сотні турыстаў не толькі з усяе Польшчы, але і з ГДР, Чэхаславакіі, Венгрыі, Францыі, Швецыі, Англіі, Злучаных Штатаў Амерыкі і шэрагу іншых краін свету. Каля ўваходу ў Запаведнік іх сустракаюць ларкі з рознай сувенірнай дробяззю і славутымі рэзбленымі статуэткамі зуброў. Побач жа, у цені разгагістых, пушчанскіх дубоў, пра-

(Працяг на стар. 4)



Новы дом. Фота Я. Цялушэцкага.

Новыя вершы

## ПЕСНЯ БРАТЭРСТВА

Каля Віслы-ракі
ёсць у жыце палянка,
На палянцы
магіла з ваенных часоў —
Там ляжыць беларус,
кажуць, зваўся ён Янка,
Кажуць, быў ён
з бягомльскіх нашых краёў.
Ходзіць слава аб ім:
Янка быў партызанам,
Па-геройску
змагаўся ў тыя гады.
Як прагнаў з Беларусі
чужынцаў паганых —
Ён пайшоў
выручыць і палякаў з бяды.
У крывавым баі
на пагорку пакатым,
Дзе фашысцкія танкі
паўзлі напралом,
Ля шырокай шашы
ён стаяў за гарматай —
Біў прамою наводкай
пад моцным агнём.
Разляталіся ўшчэнт
гартаваныя тракі —
Бранявыя страшыдлы
далей не прайшлі!
А назаўтра
з бліжэйшае вёскі палякі
Ля разбітай гарматы
героя знайшлі.
Санітарка-палячка
яго бінтавала,
На руках у яе
беларус паміраў...
Уся вёска салдата
ля Віслы хавала, —
За свабодную Польшчу
жыццё ён аддаў.
Нізка хіліць паклоны
герою калоссе,
А над полем
спяваюць аб ім жаўрукі...
Санітарка былая,
настаўніца Зося,
Кожны год на магілу
кладзе васількі.
Каля Віслы-ракі
ёсць у жыце палянка,
На палянцы
магіла з ваенных часоў —
Там ляжыць беларус,
кажуць, зваўся ён Янка,
Кажуць,
быў ён з бягомльскіх нашых краёў.

**Алесь Ставер**

ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

## ШКОЛЬНАЯ РЭФОРМА І НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

На старонках „Нівы“ разгарнулася надзвычай важная дыскусія на тэму навучання беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны.

Дыскутанты дагэтуль не закранулі яшчэ адной істотнай прычыны заняпаду навучання беларускай мовы, якую прынесла з сабою **школьная рэформа.** Паспрабуем адказаць на пытанне: як гэтая рэформа ўплывала і надалей уплывае на працэс і абсяг навучання беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны?

Як вядома, адной з важнейшых задач агульнадзяржаўнай школьнай рэформы з'яўляецца рэарганізацыя сеткі школ, што мае запэўніць павышэнне ўзроўню навучання. Згодна з гэтай рэформай, у Беластоцкім ваяводстве ў апошнія гады былі ліквідаваны сотні маленькіх школ, у тым ліку многія, у якіх ажыццяўлялася навучанне беларускай мовы. Справа сама па сабе, можа, і станоўчая, калі б вучням гэтых школ была запэўнена магчымасць працягваць навучанне беларускай мовы ў гмінных ці іншых вышэй арганізаваных школах.

На жаль, многія факты, аб якіх я даведаўся ад настаўнікаў на аўтарскіх сустрэчах у школах, на пленумах ГП БГКТ і навуковых сесіях на беларускай філалогіі ў Варшаве, сведчаць аб тым, што абумоўлены школьнай рэформай працэс рэарганізацыі сеткі школ адмоўна ўплывае на навучанне беларускай мовы. Проста **губляецца яно недзе па дарозе ад малой школкі да вялікай сучаснай школы.**

(Працяг на стар. 4)



Лебядзіная сямейка з Бельска. Фота Я. Цялушэцкага.


ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

Гмінныя цэнтры — Чаромха ● За мёдам у дзядзькі Івана ● Беларускі спорт ● Толькі супольна дасягнем мэты ● Фэстын у Рыбаках ● Кніжка пра генерала Вашкевіча ● Яшчэ раз пра Бельскі беларускі ліцэй ● Мастакі ў веснавой Белавежы ● Калі прысніцца балота... ● Весткі з Гайнаўкі, Орлі, Шудзялава, Галадоў, Нараўкі, Чыжоў, Грэдалёў, Новакорніна, Гарадка, Лішін, Паўночнага Вострава ● Песня „Poza sobą nie widzimy świata“.

У ГМІНЕ ПАСЛЯ РЭФОРМЫ




У Мілейчыцкай гміне сабраліся сяляне. Наракаюць на пагоду. Праліўныя дажджы, спалучаныя з навальніцамі, перапоўнілі рэчкі і меліярацыйныя равы, вада выступіла з берагоў, заліла лугі, пайшла паводка.

— А ў нас яшчэ сена асталося, — гаворыць дзядзька з Пабікраў, — дык мы прыйшлі да начальніка, каб нам параіў, што рабіць. Можа, нейкую ільготу ў падатку запіша...

— А чаму вы да начальніка? — пытаю.

— А да каго ж нам цяпер ісці? — амаль аднагалосна ўсклікаюць сяляне. — То ж паветаў ужо няма. А ў Беласток да ваяводскіх улад нам далекавата.

— А ці гэта добра ці дрэнна, што няма паветаў. Як па-вашаму?

Сяляне глядзяць адзін на другога і спяшаюць задаволіць маю цікаўнасць.

— Мы яшчэ не паспелі пераканацца ў гэтай справе, — дыпламатычна адказвае адзін з іх, наймалодшы.

Не здзіўляюся іх нерашучасці. На працягу ўсяго жыцця прывыклі яны да таго, што найбліжэйшая ім, мясцовая, гмінная ўлада мала што можа, што найлепш, найпэўней накіравацца адразу ў павет, бо што загадаюць у павеце, гміна і так зробіць. А тут раптам паветаў не стала. Сеймавая пастанова ад 30 чэрвеня 1975 г., якая спыніла іх існаванне, не магла аўтаматычна і механічна перастравіць псіхіку і прывычкі сялян. Дзеля гэтага трэба крыху часу. Толькі жыццёвая практыка можа пераадолець сялянскую недаверлівасць.

Уваходжу ў кабінет начальніка Мілейчыцкай гміны Мікалая Бартнічука. З ім разам сакратар гміннага ўпраўлення Валя Герасімюк і Міхась Вішанка — сакратар гміннага камітэта партыі і дзеяч БГКТ. Нешта абмяркоўваюць. Валя Герасімюк астаецца ў Мілейчыцах на сваёй пасадзе ад пачатку існавання гміны. Працавала тут ужо пры двух начальніках. Мікалай Бартнічук з'яўляецца яе трэцім шэфам па службе. Аднак найбольш засядзелым мілейчуком (родам з вёскі Мікулічы) з'яўляецца Міхась Вішанка. З Мілейчыцамі звязаў ён цэлае сваё дарослае жыццё. Добра яго ведаюць у наваколлі гэтага пасёлка і ён таксама па памяці можа назваць усіх, хто працай і грамадскай дзейнасцю заслужыў увагі.

— Што вырашаеце? — звяртаюся да іх. Першая адказвае жанчына:

— А вось ламаем сабе галаву над некаторымі праблемамі, якія яшчэ цалкам не перайшлі да нас з паветаў, хаця паветаў фармальна ўжо няма. Для прыкладу: звяртаецца да нас селянін, каб мы выдалі яму пашпарт. Гэта яго і наш абавязак, бо без пашпарта хадзіць наогул нельга, без яго не пусцяць за мяжу, не выплацяць грошай у ПКО і СОП-е, не прададуць тавар у растэрміноўку. А ў нас няма нават чыстых бланкаў для пашпартоў... Ды яшчэ добра і не ведаем, ці мы, ці хто іншы мае цяпер выдаваць гэтыя важныя дакументы...

Вярнуўшыся ў Беласток, званю ў аддзел унутранных спраў ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку. Нейкі адказны працаўнік рашучым голасам паясняе:

— З пашпартамі ніякай бяды не можа быць. Іх цяпер афармляюць у гміне. Пашпарт падпісвае начальнік гміны, а выстаўляе яго ўпаўнаважаны начальнікам дзеля гэтага працаўнік гміны. Бланкі для пашпартоў у любы момант можна атрымаць у нас, у Беластоку. Ды і самі сяляне хай ужо так не шумяць па гэтай прычыне. Раней чакалі не менш месяца, пакуль атрымаюць пашпарт у павеце, дык і цяпер могуць пачакаць крыху, пакуль усё ўладкуецца.

Калі мы яшчэ бедавалі над гэтымі пашпартамі, у кабінеце начальніка Мілейчыцкай гміны з'явіўся малады селянін.

— Дык як будзе з гэтым трактарам? — запытаў ён бойка, а ў яго голасе адчувалася стрыманая злосць. — 30 чэрвеня канчаецца канчатковы тэрмін аплаты за трактар, і я зноў астануся на валах.

Аказваецца, што каб унесці аплату за трактар, неабходна было прадставіць пасведчанне аб прыдзеле трактара. Раней такія пасведчанні выдаваў ПЗГС, а

(Працяг на стар. 5)



*Вуліца Савецкая ў г. Гомелі. Фота Э. Трыгубовіча.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

# ГОМЕЛЬ

Гомель — адзін з найбольш старажытных гарадоў Беларусі. Першае ўпамінанне аб ім у летапісах адносіцца да 1142 года.

Працоўныя Гомеля ўпісалі шмат слаўтых старонак у гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы. У 1898 годзе тут была створана першая сацыял-дэмакратычная група, а ў 1904 годзе — Палескі камітэт Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, які кіраваў выступленнямі мясцовых рабочых.

12 лістапада 1917 года гарадскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў абвясціў у Гомелі Савецкую ўладу.

Напярэдадні першай сусветнай вайны ў горадзе пераважалі дробныя саматужна-рамесныя майстэрні. Адзіным буйным прамысловым прадпрыемствам была запалкавая фабрыка, на якой працавала 400 чалавек.

За гады перадваенных пяцігодак у горадзе было пабудавана 40 прамысловых прадпрыемстваў. У 1940 годзе валавая прадукцыя прамысловасці горада пераўзышла ўзровень 1913 года ў 8 разоў.

Велізарныя страты нанеслі акупанты народнай гаспадарцы. Горад быў разбураны на 80 працэнтаў, дзесяткі тысяч гамельчан было знішчана гітлераўцамі.

26 лістапада 1943 года Гомель быў вызвалены Савецкай Арміяй ад гітлераўскіх захопнікаў. Здавалася б, што патрэбны дзесяцігоддзі, каб адрадзіць горад. Але дзякуючы самаадданай працы яго жыхароў, вялікай дапамозе братніх народаў Савецкага Саюза, Гомель пачаў хутка залечваць раны вайны. Гэта дало магчымасць ужо ў 1946 годзе аднавіць усе заводы і фабрыкі, разбураныя акупантамі.

Якасна новымі ступенямі па шляху росту і далейшага развіцця горада сталі пасляваенныя пяцігодкі, а асабліва дзевятая пяцігодка (1971—1975). У развіццё ўсіх галін гаспадаркі горада будзе ўкладзена больш 500 мільёнаў рублёў. Ужо здадзены ў эксплуатацыю буйныя прамысловыя аб'екты на заводах „Гомсельмаш", „Цэнтраліт", на хімічным, на шклозаводзе, у дрэваапрацоўчым вытворчым аб'яднанні і г.д.

Вялікая ўвага ўдзяляецца жыллёваму будаўніцтву. Горад уяўляе сабою велізарную будаўнічую пляцоўку. Ніколі ён не будаваўся такімі тэмпамі, як цяпер.

Сучасны Гомель — адзін з самых індустрыяльных гарадоў Беларусі. Па колькасці насельніцтва, (больш 340 тысяч чалавек) і аб'ёму прамысловай прадукцыі ён займае другое месца сярод беларускіх гарадоў. Гэта горад паркаў і кветак, цікавай архітэктуры, горад заводаў і новабудоўляў, шматлікіх навучальных і культурных устаноў.

З канвеераў прадпрыемстваў горада кожныя 26 мінут сходзіць сіласаўборачны камбайн, 15 мінут — трактарная прычэпа, 3 мінуты — пускавы рухавік, 1,5 мінуты — мужчынскі касцюм, 1 гадзіна — больш 3000 адзінак бялізны і верхняга трыкатажа. Прадукцыя гомельскіх заводаў і фабрык вядома не толькі ў савецкай краіне. Станкі завода імя Кірава, камбайны Гомельскага завода сельскагаспадарчых машын, шклозавода імя Ламаносава, прыборы і іншыя вырабы пастаўляюцца ў 58 краін свету.

Сапраўдны росквіт атрымалі ў Гомелі народная адукацыя, навука і культура. У горадзе цяпер працуе 57 агульнаадукацыйных школ, 9 тэхнікумаў, універсітэт, інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, філіял Беларускага палітэхнічнага і Маскоўскага гандлёва-кааператыўнага інстытутаў, 80 бібліятэк, 16 клубаў, цырк, драматычны і лялькавы тэатры, філармонія, музей.






**Sobota 19.VII.** 8.50 Studio: SOJUZ—APOLLO. 10.00 Człowiek w przechodnim podwórku — film. ser. radz. (powt.) 15.55 Pr. dnia. 16.00 Pr. I proponuje. 16.15 Inf., Tow., Prop. 16.25 Dziennik. 16.35 Obiektyw. 17.00 Pr. publ. 18.00 Studio SOJUZ—APOLLO. 18.40 Spotkania w drodze. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Całe złoto świata — musical radz. 21.50 Dziennik. 22.10 Dobry wieczór — tu Łódź. 23.00 Sport.

**Niedziela 20.VII.** 8.25 Pr. dnia. 8.30 TELERANEK. 10.00 Z księgi królów — film fab. radz. 11.30 Studio: SOJUZ—APOLLO. 12.00 Dziennik. 12.20 Tydzień. 12.35 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 13.05 Dla dzieci: O Kasi co gąski zgubiła — wid. lalkowe. 14.00 Z kamerą wśród zwierząt. 14.30 Spiewa Halina Frąckowiak. 14.50 Wielka gra. 15.50 Los. Mał. Lotka. 16.10 Pegaz. 16.30 Spiewają: Karel Gott, Nadia Urbankova i Urszula Sipińska. 17.35 Życie codzienne — rep. film. 18.00 Co kto lubi — program rozr. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Vidocq w opałach — film. ser. (Nowe przygody Vidocqa). 21.25 Róże Montreux — pr. rozr. 21.55 Lato Wielkopolskie (Krajobraz Polski). 22.05 Studio Muz. Rozr. 22.35 Sport.

**Poniedziałek 21.VII.** 8.45 Pr. dnia. 8.50 Zwierzyniec. 9.20 Przygody Tolka Borówki. 10.25 Piosenki spod żagla. 11.20 Studio: SOJUZ—APOLLO. 12.30 Dziennik. 12.50 Prombita — rogi Gajdy — film. folkl. 13.05 Sylwetki X Muzy — TADEUSZ BOROWSKI. 13.30 Pr. operetkowy. 14.00 Piórkiem i węglem. 14.25 Eureka. 14.40 Recital piosenkarski. 15.00 Ocalone ręce — rep. 15.20 Eolomea — film fab. NRD. 16.50 Jest taki pałac w Warszawie — rep. film. 17.20 Wieczorny gość — JÓZEF NOWAK. 18.00 Wszystko za wszystko — z dyrektorem Huty „Hortensja". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Teatr. 22.10 Świadkowie. 22.35 Przeboje świata.

**Wtorek 22.VII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Nowe przygody Bolka i Lolka. 9.40 W starym kinie: Jadzia — film arch. pol. 11.00 Klub Sześciu Kontynentów. 11.55 Uroczysta Odprawa Wart przy Grobie Niezn. Żoł. w Warszawie. 12.45 Dziennik. 13.00 Pr. folkl. rozr. 13.55 Słowo o Wincentym Pstrowskim. 14.20 Trzecia granica — film ser. TVP. 15.00 Trans. z uroczystego otwarcia Spartakiady Młodzieży. 15.25 Przegląd Polonijny. 16.05 Niezapomniane melodie — stare szlagiery w nowej aranżacji. 16.45 Tele-Echo. 17.45 Film fab. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Z najlepszymi życzeniami. 21.40 Progi i bariery. 22.40 Sport.

**Środa 23.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik 16.40 Obiektyw. 17.00 Los. Mał. Lotka. 17.10 Rozalka — film. ser. węg. (Miasto w czerni) odc. 4. 18.00 Patrol. 18.25 Rep. film. 19.10 Kronika Spartakiady Mł. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Filmoteka Arcydzieł: Brzask. 21.45 Świat i Polska. 22.30 Dziennik. 23.05 Sport. 23.35 Inf., Tow., Prop.

**Czwartek 24.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.25 Tur. i wypoczynek. 17.30 TELEFERIE. 18.35 Kronika Spartakiady Mł. 18.45 Czym żyje świat. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Czapka — film krym. RFN. 21.30 Pegaz. 21.15 Dziennik. 22.35 Sport.

**Piątek 25.VII.** 9.00 PORANEK TEL. NAJMŁ. 10.00 Czapka — film. fab. RFN. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Rep. film. 17.50 Sezam. 18.10 Mała Encyklopedia Zwierząt — film. ser. fr. 18.40 Pr. publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Człowiek w przechodnim podwórku — film. ser. radz. — odc. IV. 21.20 Panorama. 22.05 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 22.35 Dziennik. 22.50 Sport.




**Piątek 18.VII** — 8.00 Film fab. 9.45 Koncert. 17.40 Śpiewa „Drużba". 18.15 Ziemia—kosmos—Ziemia. 19.30 Pr. rozr. 20.35 Sport. 21.30 Rep. z orbity.

**Sobota 19.VII** — 11.45 Koncert chóru im. Piatnickiego. 13.00 Film dla dzieci. 15.00 Film ser. 1 część. 16.45 Filmy anim. 17.45 Koncert Archipowej. 18.05 Film fab.. 19.45 Fin. koncert fest. „Białe noce". 20.25 Sport.

**Niedziela 20.VII.** — 10.20 Mistrz. świata w szermierce. 15.00 Film ser. 2 część. 16.15 Filmy anim. 16.40 Klub film. 17.40 Cyrk. 18.00 Film dok. 19.30 P. Nożna. Dynamo (K)—Ararat. 2 połowa. 20.15 Koncert.




**Białowieża** Tragedia na wrzosowiskach — duń. 22—23. Heca — RFN 24—25. Kasztany miłości — wł. 26—27.

**Czyże** Gra złudzień — wł. Po drugiej stronie słońca — ang. 23—27.

**Dubicze Cerkiewne** Potop — pol. 23—27.

**Gródek** Pięć łatwych utworów — USA 26—27.

**Kleszczele** Ślub bez obrączki — buł. 22—23. Romantyczni — pol. 24—25. Bezdomny — buł. 26—27.

**Michałowo** Serafino — wł. 22—23. Potop — pol. 25—27.

**Milejczyce** Zaproszona — fr. 22—23. Awans — pol. 24—25. Weronika w kaju czarów — rum. 26—27.

**Narew** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. Małżonkowie roku drugiego — radz. 23—27.

**Narewka** Gra złudzeń — wł. Po drugiej stronie słońca — angl. 23—27.

**Nurzec** Operacja Y — radz. 22—23. Dwa żebra Adama — pol. 24—25. Gwiazdy są oczami wojewnika 26—27.

**Orla** Opowieść w czerwieni — pol. Wiosna panie sierżancie — pol. 23—27.

**Rajsk** Kasztany miłości — wł. Weronika — węg. 23—27.

**Прэзідыум ГП БГКТ выказвае глыбокае спачуванне члену Прэзідыума ГП БГКТ, старшыні варшаўскага аддзела БГКТ**

**АЛЯКСАНДРУ БАРШЧЭЎСКАМУ**

**з прычыны смерці маці.**



B.Z.Graf. zam. 1805 P-1

 



Сола выступае Ян Карповіч з Гарадка.

# З канцэртам у Сакі

29 чэрвеня ў нядзелю да пасляабедняй пары ішоў праліўны дождж. У той час у вёску Сакі Бельскай гміны ехалі харавыя калектывы з Гарадка. Усе пасажыры спадзяваліся быць у адзінаццаць гадзін дня (як было дамоўлена) на месцы. Але вось, на няшчасце, сапсаваўся аўтобус. Давялося стаяць у паўдарозе ў полі пад Заблудавам. У спевакоў утрымліваўся аднак ранейшы бадзёры, добры настрой. Калі адрамантавалі аўтобус, была ўжо трэцяя гадзіна пасля поўдня. Аднак гарадоцкія дзяўчаты і жанчыны рашуча адмовіліся вяртацца дадому або ехаць у Беласток. Абавязак перш за ўсё.

Прыехаўшы на месца, трэба было нанава склікаць публіку. Спозненым канцерт пачаўся, як ніколі дагэтуль, на ганачку адной з вілаў. Паслухаць, як спяваюць гарадоцкія харысты, прыйшлі жыхары Сакоў і нават суседніх вёсак. У суме сабралася нямала народу. Выступленні былі ўспрыняты цёпла. На заканчэнне канцэрта некалькі слоў перад публікай сказаў солтыс з Сакоў Аляксей Андрэюк, зачараваны і ўсхваляваны цудоўнымі песнямі і іх выкананнем. Ён шчыра падзякаваў за канцэрт, які ўсім вельмі спадабаўся.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**





Харавы калектыў з Гарадка выступіў на ганачку адной вілы ў Саках.

# СТАРЫЯ КІНАФІЛЬМЫ АБ БЕЛАВЕЖЫ

Збіраючы матэрыялы аб кінафільмах, якія здымаліся ў Белавежскай пушчы, наткнуўся я нядаўна, дзякуючы інфармацыі др інж. Чэслава Аколува, на два фільмы, рэалізаваныя Янам Ежы Карпінскім на васьмiміліметровай кінастужцы ў Белавежы ў 1938 годзе. Яны перажылі другую сусветную вайну і сёння знаходзяцца ў белавежскай лабараторыі аховы прыроды Інстытута даследаванняў лесу.

Першая кінастужка мае 60 метраў даўжыні. Я. Е. Карпінскі ўвекавечыў на ёй экскурсію ў Белавежу варшаўскага аддзела „Сям'і лесніка“. Фільм пачынаецца прыездам цягніка на станцыю. Экскурсанты выходзяць з цягніка і ідуць у напрамку казіна. Наступныя кінакадры прадстаўляюць прагулку вузкакалейнай чугункай па той частцы пушчы, дзе вялася лясная гаспадарка. Экскурсанты спыніліся ва ўрочышчы Старая Белавежа. Потым наведалі лесапільню на Грудках, ездзілі падводамі ў запаведнік зуброў і, вярнуўшыся ў палацовы парк, выехалі ў запаведнік прыроды. Гэты эпізод у фільме найдаўжэйшы. Заключныя кінакадры паказваюць вяртанне экскурсіі ў парк.

Другая кінастужка карацейшая за першую. Усяго 35 метраў даўжыні. У яе, на жаль, няма пачатку з загалоўкам. Фільм паказвае экскурсію групы вучоных, сярод якіх не ўдалося мне яшчэ нікога пазнаць. Вучоныя наведалі розныя фрагменты пушчы.

Фільмы гэтыя вельмі каштоўныя. Яны паказваюць шматлікія аб'екты даваеннай Белавежы. Некаторых ужо даўно няма, як, напрыклад, лесапільні на Грудках ці палаца, збудаванага па загаду цара Аляксандра III. У фільмах увекавечаны таксама зубры, якія далі пачатак новай гадоўлі, чыгуначная станцыя, славуты дуб Ягайлы (ён ужо паваліўся), фрагмент вуліцы Стачок і многія лясныя краявіды. У абодвух фільмах паяўляўся ляснічы Раман Ясінскі, супрацоўнік і сябар шматгадовага дырэктара Нацыянальнага парка ў Белавежы Яна Ежы Карпінскага. Яго аднаго і пазналі.

Кінастужкі праф. Карпінскага з'яўляюцца ў асноўным адзінымі захаванымі кінастужкамі, якія паказваюць Белавежскую пушчу ў перыяд паміж сусветнымі войнамі. Захавалася яшчэ адна плёнка — кінафільм „У Сібір“ (1930 г.), рэалізаваны Генрыкам Шаро часткова ў Белавежскай пушчы. Але яна не мае такой дакументальнай вартасці.




## КНІГА АБ МАРЫІ БАГУШЭВІЧ

Нядаўна на кніжным рынку паявілася цікавая кніжка Дыянізы Ваўжыкоўскай-Верцяховай „Касцюшкоўская праўнучка“, падрыхтаваная выдавецтвам „Кніга і веды“ ў Варшаве, Кніжка прысвечана адной з першых польскіх сацыялістак, дзеячу рэвалюцыйнага руху ў Польшчы — Марыі Багушэвіч.

Марыя Багушэвіч нарадзілася 4 студзеня 1865 года ў вёсцы Цецерка Слуцкага павету, Мінскай губерні. Паходзіла са збяднелай дваранскай сям'і з роду Касцюшкаў. Скончыўшы пенсіянат у 1883 годзе, настаўнічала. Дзейнічала ў „Чырвоным крыжы дапамогі палітвязням“. У пачатку 1884 года ўступіла ў рады партыі „Пралетарыят“, заснаванай Людвікам Варынскім, і неўзабаве стала перадавым дзеячом партыі. Пасля масавых арыштаў кіраўнікоў „Пралетарыяту“ ўвосень 1884 года ўзначаліла Цэнтральны Камітэт партыі. 30 верасня 1885 года была арыштавана і замкнута ў Варшаўскай цытадэлі. Пасля паўтарагадовай пабыўкі ў турме засуждана была на 5 гадоў ссылкі ў Сібір. Па дарозе ў Сібір напісала „Дзённік“, выдадзены ў 1955 годзе ў Вроцлаве. Памерла позняй восенню 1887 года ў краснаярскай турме.

У змястоўнай кнізе „Касцюшкоўская праўнучка“ асабліваe зацікаўленне выклікае першы раздзел „У польскім шляхецкім доміку на Беларусі“.

Прыгадаем некаторыя вытрымкі з гэтага раздзела.

„...Беларускія землі засялялі шматлікія польскія сем'і. Была гэта апрача магнатаў пераважна дробная і сярэдняя шляхта, асеўшая там даўным-даўно. Цікава, што чым бяднейшы быў шляхецкі дом, тым большае існавала сужыццё яго жыхароў з навакольным беларускім насельніцтвам. З гэтых малых шляхецкіх дамоў нярэдка паходзілі вядучыя польскія патрыёты, якія змагаліся за свабоду народаў, арганізатары будучага сацыял-рэвалюцыйнага рабочага руху.

У гісторыі нашай нацыянальна-вызваленчай і рэвалюцыйнай барацьбы залатымі літарамі трэба напісаць назвы такіх невялікіх шляхецкіх дамоў, як Струшаў Тадэуша Рэйтана, Слуцка Корсака-Савічынскага, Мерачкоўшчына і Сяхновічы Касцюшкаў, малы фальварак Губерніч, якім гаспадарыў у старыя гады прафесар Аляксандр Міцкевіч, брат вялікага Адама, Мількоўшчыну і Людвінаў — сядзібу Элаізы Ажэшка, сямейны Востраў Рамуальда Траўгута і пасажны Клапоцін яго жонкі (з сям'і Касцюшкі). У далейшым выпадае назваць Саху і Пірковічы Выслоухаў, Калодна-Скірмунтаў, Мастаўляны і Якушоўку Каліноўскіх...“

Як сцвярджае аўтар кніжкі, бацька Марыі — Уладзімір Багушэвіч — прымаў удзел у студзеньскім паўстанні.

„...У сям'і Багушэвічаў, — піша аўтар кнігі, — перахоўвалася легенда, што падчас святкавання беларусамі восеньскіх урачыстасцей „дзядоў“ прыносілі на могілкі моцна ўжо паднішчаны экземпляр нелегальнага часопіса пад заг. „Мужыцкая праўда“, выдаваемага Каліноўскім на беларускай мове ў 1862 г. Пан Уладзімір урачыста адчытваў адозву, заклікаючую беларускі народ на барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне...

...Падрастаючая Марыня неаднойчы слухала ў чалядні апавяданні і песні аб гераічным правадыры студзеньскага паўстання, Кастусю Каліноўскім, павешаным у Вільні ў 1864 годзе за ўздым беларускага і літоўскага народаў да вызваленчай барацьбы“.

**Віктар Швед**

З РАЗБУДЖАНАЙ ГРАМАДЫ






Сёння яму ўжо 81 год. Перажытае пакінула трывалы след на яго выглядзе і здароўі. Са сваёй жонкай, на шэсць год старэйшай за яго, жывуць цяпер у Орлі.

Ад 1961 года Мефодзій Казакевіч з'яўляецца заслужаным дзяржаўным пенсіянерам. 20-гадовым юнаком, як многія тысячы бежанцаў з нашай Беласточчыны, трапіў ён у рэвалюцыйную Расію і сам стаў байцом рэвалюцыі — служыў коннікам праслаўленай Будзёнаўскай коннай арміі.

Ваяваў на Кубані і на Дану, адстойваў Растоў на-Дану і Екацерынаслаўль. (Днепрапятроўск).

За гэта савецкі ўрад у 50-ую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі прысвоіў Мефодзію Казакевічу Ордэн **Чырвонай Зоркі.**

А калі разам з бацькамі вярнуўся ён у свае родныя Пасечнікі Вялікія, быў адным з тых, хто звязаў свой лёс з Грамадой. Не падабаліся яму парадкі ў панскай Польшчы. Вакол бачыў бяду і галечу, здзекі і насілле. Жыў тады ў вёсцы Крывяцічы, дзе быў у прыступах. З Варшавы, з Вільна, з Беластока і Бельска наплывалі весткі аб рэвалюцыйным уздыме беларускіх сялян. Мясцовае насельніцтва таксама будзілася са прадвечнага сну. На кірмашах у мястэчках, у час вечарынак і на святочных зборышчах з вуснаў у вусны перадавалі вестку аб новай беларускай арганізацыі аб Сялянска-рабочай Грамадзе.

У Крывяцічах і навакольных вёсках знайшліся яго аднадумцы. Мефодзій Казакевіч называе прозвішчы **Ануфрыя Бобіка,** які ўжо памёр, **Сяргея Дружбы,** які па сённяшні дзень жыве ў Крывяцічах, **Амброзія Чыквіна,** які выехаў у Савецкі Саюз, і **Карпа Куптэля** з Орлі.

Што рабілі?

Збіралі сходы, наладжвалі вечарынкі, супольна чыталі газеты і лістоўкі. Гаварылі аб сваёй цяжкай долі і пра багацце паноў. Патрабавалі школы для сваіх дзяцей на роднай мове, змагаліся за зямлю для бедных сялян і батракоў, ставілі народныя ігрышчы, спявалі свае любімыя песні...

Найбольш трывалы след у памяці Мефодзія Казакевіча пакінуў павятовы з'езд дэлегатаў Грамады Бельскага павету, які адбыўся 2 снежня 1926 года ў вёсцы Старое Беразова. На дэлегатаў гэтага з'езду напала паліцыя, многіх з іх страшэнна пабіла. Казакевіч успамінае пра здзекі над грамадаўскімі пасламі ў Сейм, якія прымалі ўдзел у стараберазоўскім з'ездзе.

**(Працяг на стар. 5)**



 




## Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XIV

**Фальклорныя творы.** Творы А. Гаруна „Варажба" і „Канец Паўлючонка" могуць быць залічаны да віду балады. У баладзе, як вядома, сужывуць элементы рэальныя з элементамі выдуманымі, фікцыйнымі. Беларускі фальклор ведае нямала твораў, утрыманых у нормах балады. Якраз да такой катэгорыі беларускага фальклора звярталіся польскія рамантыкі. Найпрыгажэйшай праявай гэтай залежнасці быў зборнік Міцкевіча „Балады і рамансы". Алесь Гарун, несумненна, пайшоў па слядах польскіх рамантыкаў і ў светлы струмень сваіх фальклорных твораў увёў змрочны баладны настрой.

Твору „Варажба" аўтар даў падзагаловак „Засцянковая аповесць". У творы выступае тыповая баладная атмасфера. Прадстаўлены ў ім маёнтак, вартаўнік Ігнацы, суровы мароз, настрой ночы. На фоне гэтай атмасферы паказана ахмістрыня Амілля:

Панна Амілля тымчасам сабе
Вечар праводзіць у нейкай журбе:
Нейкія трызні плятуцца дзяўчыне —
Баццам яна не ў двары ахмістрыня,
Баццам яна не жыве ў вахвіцыне,
Баццам яна немаведама хто,
Хочацца сэрцу няведама што.

Журба, трывога, няўпэўненасць — усё гэта ідэальна набліжала твор да балады. Зрэшты, і далейшыя фрагменты твора паглыбляюць баладны настрой. Успаміны гераіні аб гусары, які стаяў у двары і прысягнуў дзяўчыне каханне. Варажба, мара аб спатканні з каханым і набліжэнне поўначы:

Поўнач прыйшла. У двары пятухі
Раз прапялі з-пад цёплай страхі.
Крайчыкам месяц з-за хмар выглядае.
Панна Амілля варожб не кідае.
Новы, хітрэйшы пас'янс раскладае:
—Любіць, не любіць, любіў, ашукаў,
Верным застаўся, ці ім не бываў?"

І тут стаўся цуд. Адчыняюцца дзверы, уваходзіць гусар, падыходзіць да дзяўчыны і запэўнівае яе ў сваім глыбокім каханні. Збянтэжаная і шчаслівая Амілля ўсё больш уступае і ўрэшце рашаецца ісці за каханым. У апошнюю, аднак, хвіліну ўстрымоўваецца, перахрышчвае каханка рукою і перакონваецца, што перад ёю стаіць не гусар, а д'ябал. Паяўленне д'ябла пад постаццю каханка аўтар, мабыць, трактуе як кару за „варажбу ў вадвэнтовым пасце". У тым праяўляецца маралізатарскі, дыдактычны сэнс твора.

Тыповай баладай з'яўляецца таксама другі твор „Канец Паўлючонка". І тут не бракуе змрочнасці і таямнічасці. Селянін вяртаецца ноччу з кірмашу.

Едзе ў страху: цёмна, ціха...
У дальнім лесе хтось рагоча.
Уляпіў у цемню вочы,
І здаецца, што за ліха?

Селянін сустракае жабракоў, але не прымае іх на сваю фурманку. Паганяе каня і пакідае жабракоў на дарозе. Праходзіць момант, і гэрой твора наганяе цыганоў. Тыя бесцырымонна сядаюць на фурманку, абяцаючы селяніну заплату ў найбліжэйшай карчме. У карчме цыганы напаілі напавал Паўлючонка і ўрэшце запрапанавалі яму вялікія грошы за адрачэнне ад бога. Паўлючонак згадзіўся. Назаўтра людзі знайшлі мёртвага Паўлючонка ў балоце. Гэта чэрці яго туды звабілі і ўтапілі. І ў гэтым творы выступае элемент перасцярогі. Здаецца, што аўтар гаворыць нам: не напівайся, кантралюй сябе, не будзь ласы на грошы, не выракайся бога.

Так ці інакш, у „Канцы Паўлючонка" так, як і ў „Варажбе", дамінуюць таямнічасць, загадкавасць, фантастыка, кантакт чалавека з сатанічнымі сіламі. Усё гэта складае баладную аснову твораў.

Пасля прачытання гэтых твораў пачынае здавацца, што аўтар хоча чалавеку сказаць: ты, малы чалавеча, у вялікім свеце не адзін, ты акружаны непрыхільнымі сіламі, толькі твая прынцыповасць і ўнутраная чысціня могуць цябе абараніць ад чорных сіл.

Пачатак на стар. 1

## СІМВАЛ ПУШЧЫ



цуюць і самі белавежскія майстры-разьбяры. Вакол іх няспынна тоўпіцца рознамоўная грамада турыстаў. Пстрыкаюць фотаапараты, тарахцяць кінакамеры, а позірк усіх нацэлены на звітныя рукі разьбяроў.

У адной групе працуюць Павел Харкевіч, Кастусь Грыгарук і Зіна Падгаецкая. Турысты, асабліва ж турысткі, не спускаюць вачэй з дробненькіх, па-жаночаму далікатных пальцаў разьбяркі Зіны Падгаецкай і са здзіўленнем і захапленнем сочаць, як спраўна ў іх ходзяць вострыя, бы брытва, розныя долаты, нажы ды разцы, каб са звычайнага куска сухога ліпавага палена вычараваць стройную постаць зубра — валадара і сімвал Белавежскай пушчы.

— Нам да працы з дрэвам не прывыкаць, — заўважае Аляксей Смактуновіч, што з Янкам Падгаецкім працуе ў другой групе. — У нас і будынкі, і прылады да працы на гаспадарцы і часам нават хатні посуд — гэта ж пераважна дрэва. А калісьці дык ад гузіка пачаўшы і да возу — драўлянае было.

Так яно і ёсць. Сённяшняя, нядаўна расцвіўшая ў Белавежы і Гайнаўцы, разьба драўляных статуэтак зуброў з'яўляецца працягам традыцыі колішняй народнай разьбы па дрэву, што буйна развівалася ў пушчанскіх ваколіцах. Возьмем хоць бы выразныя прасніцы да калаўроткаў, абкладзеныя замыславатай разьбою санкі-шыткі ці ўсю разнастайную безліч драўлянай разьбы на вясковых хатах: конікі, падстрэшнікі, падаконнікі, навугельнікі, рэзбленыя ганкі.

— Хоць штогод з-пад нашых разцоў выходзяць сотні зубрыных фігурак, — кажа Янка Падгаецкі, — але вы не знойдзеце дзвюх цалкам аднолькавых. Кожная з іх мае ўласны выраз: адна прадстаўляе зубра гатовага зараз жа кінуцца на ворага, іншая ж — спакойнага, задуменнага. Можа ў гэтым выяўляецца і наш, разьбярскі, настрой. Надта ж любім сваю працу, бо бачым, што яна прыносіць людзям задавальненне, а тутэйшым ваколіцам папулярнасць на свеце. Вось я нядаўна атрымаў удзячнае пісьмо ад аднаго турыста са Швецыі, а на днях адзін з заходніх наведвальнікаў амаль цэлы дзень стаяў нада мной з кінакамерай і здымаў мяне ў працы над фігуркай ад самага пачатку і да апошняга шліфу. Потым купіў яе ў мяне на памяць...

А я дадам: тысячы наведвальнікаў жамчужыны Беласточчыны — Белавежскай пушчы — набылі ў ёй статуэткі зубра і, падобна як і я, паставілі яе на самым пачэсным месцы ў сваёй кватэры, каб штодня цешыць вока гэтым арыгінальным творам майстра-разьбяра, які ўвасабляе веліч пушчы і адвечныя традыцыі нашага народнага мастацтва.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Народныя разьбяры Я. Падгаецкі і А. Смактуновіч за працай.*

### ЭКЗАМЕН У ЮНЫХ АКАРДЭАНІСТАЎ



*Трымае экзамен Багуслаў Дзедушаў, які ўжо трэці год вучыцца іграць на акардэоне.*

У канцы чэрвеня ў клубе Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11, адбыўся чарговы трынаццаты экзамен для 30 удзельнікаў курсу ігры на акардэоне. Усе яны паспяхова здалі экзамен, у тым ліку 12 асоб на пяцёркі і 13 асоб — на чацвёркі. Апрача таго, некаторыя з юных курсантаў паспяхова здалі экзамены ў музычныя школы. Варта адзначыць, што заняткі па ігры на акардэоне з дзецьмі актывістаў і членаў БГКТ ужо 13 гадоў вядзе музыкант Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра ў Беластоку Веслаў Дзюбінскі. Поспехі юных акардэаністаў на экзаменах — гэта таксама яго заслуга.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

Пачатак на стар. 1

## ШКОЛЬНАЯ РЭФОРМА І НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Каб не быць галаслоўнымі, прывядзем некалькі фактаў. Вось, напрыклад, пасля ліквідацыі ў 1974 г. школы ў Гаркавічах Бабіцкай гміны яе былым вучням не створана магчымасць працягваць навучанне беларускай мовы. Такі самы лёс спаткаў вучняў школы ў Навасадах, якія пасля іх далучэння да гміннай школы ў Шымках не атрымалі ўжо магчымасці вывучаць беларускую мову. Тая сама з'ява выступае ў Чаромхаўскай гміне. Калі ў 1970/71 навучальным годзе ва ўсіх шасці школах гміны (Беразішчы, Ставішчы, Зубачы, Волька Тэрахоўская, Чаромха-вёска і Чаромха-пасёлак) беларускую мову вывучала амаль паўтысячы дзяцей, то сёння — ніводнае. Тое самае наглядаецца, калі вучні 4-класных школ пераводзяцца ў школы ў Бельску і Гайнаўцы. Напрыклад, у Гайнаўцы беларуская мова выкладаецца толькі ў адной пачатковай школе № 2. Вучні са школы ў Горным (I—IV класы) пераводзяцца не толькі ў школу № 2, але і ў іншыя. **На жаль, навучанне беларускай мовы там ім не арганізоўваецца. Тое ж самае выступае і ў Бельску.**

Згодна з інструкцыяй Міністэрства асветы, толькі бацькі маюць права рашаць аб тым, ці іх дзеці будуць вывучаць беларускую мову, ці не. Прыведзеныя прыклады паказваюць, што гэты прынцып у многіх выпадках ігнаруецца школьнай адміністрацыяй. Іншая ацэнка гэтай з'явы проста немагчымая, паколькі вучні, якія перайшлі ў вышэй арганізаваныя школы, беларускую мову вывучалі ўжо раней на падставе патрабаванай уладамі **згоды бацькоў!**

Можна і трэба затрымацца над пытаннем, чым абумоўліваюцца гэтыя практыкі. Змястоўнае высненне гэтай справы даў у сваім выступленні ў дыскусіі Юры Туронак, які ўдакументаваў эвалюцыю ў навучанні беларускай мовы. Няма сумнення, што прынцып добраахвотнасці ў апошнія гады стаў адным з важнейшых фактараў змяншэння навучання роднай мовы ў школах. Ва ўмовах шматлікіх, не заўсёды згодных адно з другім распараджэнняў, паўстаў **спецыфічны клімат** вакол гэтага пытання. Вызначае ёй ролю непаўнацэннага, перыферыйнага прадмета ў школе. таму ані школьная адміністрацыя, ані дырэктары школ (на шчасце, не ўсе) не лічаць патрэбным супраціўляцца такім тэндэнцыям. Адчуваюць яны, што могуць сабе пазволіць на трактоўку прадмета беларускай мовы, як прадмета лішняга, непатрэбнага, не выключаючы нават магчымасці яго ліквідацыі. Вось, напрыклад, як паведамілі ў Беластоцкім павятовым інспектараце, у Войшках, дзе некалькі дзесяткаў год практычна ўсе дзеці вывучалі беларускую мову, у верасні 1974 г. яе настаўніка накіравалі на іншую работу, а новага ўжо не назначылі. Вучні аказаліся без магчымасці вывучаць родную мову, нягледзячы на наяўнасць добраахвотных рашэнняў бацькоў.

Падобных прыкладаў можна было б знайсці і больш, але і гэтых ужо дастаткова. Сведчаць яны аб тым, што спасылка на „добраахвотнасць" бацькоў, як прычыну змяншэння абсягу навучання роднай мовы ў школах, з'яўляецца смешнай спробай тлумачэння сапраўднага становішча.

У такіх умовах навучанне беларускай мовы ў школах, як прадмета малаважнага, залежыць на практыцы ад выпадковага падыходу да гэтай справы дырэктараў паасобных школ.

## Мефодзій Казакевіч

Пасля разгрому Грамады па рэкамендацыі Сяргея Дружбы і Кірыла Сулімы ў 1927 годзе Мефодзій Казакевіч стаў членам КПЗБ.

— А калі да нас прыйшлі Саветы, — успамінае дзядуля Мефодзій, — сяляне з Крывяціч выбралі мяне сваім вясковым дэпутатам у Арлянскі сельсавет.

У няцэлы месяц пасля вызвалення Бельска (30.07.1944 г.) і навакольных вёсак Мефодзій Казакевіч паступіў у грамадзянскую міліцыю.

— За службу нам не плацілі. Нават зброю вымушаны былі мы самі раздабыць. Жылі энтузіязмам і верай, што служым добрай справе.

Праз нейкі час назначылі Мефодзія Казакевіча камендантам міліцэйнага пастарунка ў Мілейчыцах. З-за кожнага вугла, на кожным павароце дарогі, з кожнага пералеску ў кожную хвіліну дня і ночы магла тады пасці смяротная куля. І многіх яна дасягнула.

Калі ў Сямяцічах арганізавалі павет, Мефодзія Казакевіча накіравалі туды працаваць ў пашпартнае бюро.

— Ніхто нам не абяцаў ніякіх выгод, — гаворыць ён. — Быў партыйны і службовы загад, ды ўся справа. Два гады і 8 месяцаў маім ложкам быў той самы стол, за якім я ўдзень працаваў.

З Сямяціч перавялі яго ў Бельск, а затым — у Орлю, дзе даслужыўся ён **Кавалерскага Крыжа** Ордэна Адраджэння Польшчы і многіх іншых ордэнаў і медаляў.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ЛЮБОЎНАЯ




*Нэ шум, дубэ, нэ шум, дубэ,*
*зэлёны байрачэ.*
*Нэ здрадь мэнэ, нэ здрадь мэнэ,*
*молоды козачэ.*
*Тэчэ рэчка од мэльнічка*
*з вішнёвого саду.*
*Клічэ козак дівўчыноньку*
*собіе на пораду:*
*— Порадь, моя дівўчынонько,*
*як родная маті,*
*чы мніе тэпэр жэнітісе,*
*чы на тэбэ ждаті?*
*— А я тобіе, мой міленькі,*
*раджу нэ пораджу —*
*я з тобою вэчур стою —*
*на другого гляджу,*
*я з тобою вэчур стою —*
*на другого гляджу.*

Ад Настасіі Паўлючук, 1905 года нараджэння, і Марыі Паўлючук, 1906 года нараджэння, вёска Цялушкі Заблудаўскай гміны, запісаў 31 студзеня 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### СПАРТСМЕНКІ З БЕЛЬСКАГА МЕДЛІЦЭЯ

У Медыцынскім ліцэі ў Бельску Падляшскім існуе актыўны спартыўны гурток па валейболу. У цяперашнім складзе ён працуе ўжо чатыры гады. У першым годзе існавання адбываліся толькі трэніроўкі, спачатку адзін раз у тыдзень, пасля часцей. На другі год трэніроўкі былі вельмі частыя. Каманда паехала іграць на ваяводскі чэмпіянат медыцынскіх школ у валейболе. Заваявала I месца. Тады трэба было ехаць на зanальны чэмпіянат Польшчы, дзе заваявала II месца.

У гэтым годзе адбыліся такія ж самыя ваяводскія і занальныя спаборніцтвы. На адных і другіх каманда бельскага медыцынскага ліцэя заваявала I месца. Нядаўна каманда ездзіла на чэмпіянат Польшчы ў Слупск, дзе заняла III месца.

У складзе каманды, якой кіруе і апякуецца прафесар Мар'я Дамброўская, дзяўчаты з II, III, IV, V класаў.

Размаўляю з некаторымі валейбалісткамі. Вось Ірэна Вайцюк.

— Ці задаволена ты з прыналежнасці да школьнага спартыўнага гуртка?

— Спорт — гэта мая забава. Задаваленне даюць мне трэніроўкі, але таксама выезды, дзякуючы якім пазнаю родны край, людзей.

Пытаю ў Зосі Какарэка:

— Што табе дае спорт?

— Ужо факт, што належу да нейкай арганізацыі, дае задаваленне. Зрэшты, спортам цікаўлюся ад дзяцінства, добры гэта спосаб выпрацоўваць сілу волі.

— Ці трэніроўкі і спаборніцтвы не перашкаджаюць у вучобе?

— Трэніроўка становіцца формай адпачынку.

Валейбалісткі добра вучацца, некаторыя з'яўляюцца найлепшымі. Гавару з Рэгінай Капуўкай, у якой толькі пяцёркі і чацвёркі:

— Ці думаеш далей займацца спортам?

— Калі толькі будзе магчымасць. Ці паступлю ў вышэйшую навучальную ўстанову, ці пайду працаваць, валейбол заўсёды будзе запаўняць мне кожную свабодную хвіліну.

Валейбалісткі не абмяжоўваюцца адной дысцыплінай спорту. Яны часта займаюць добрыя месцы і ў іншых галінах. Напрыклад, капітан каманды Галіна Вайлюк, якая на канікулах у мінулым годзе заняла першае месца па кіданні кап'я ў ГДР у горадзе Бірменгаузен.

— Я чула, што ты пазаўчора выязджала ў Беласток. З якім вынікам вярнулася?

— На міжшкольных спаборніцтвах па кіданню кап'я я заняла першае месца.

**Ніна Гаўрылюк, медліцэй**



*Каманда валейбалістак бельскага медліцэя. Злева: капітан Галіна Вайлюк, Зося Какарэка, Барбара Матылевіч, Рэгіна Капуўка, Ірэна Вайцюк, Тэрэса Лабасюк, Бажэна Гаголек, Анна Гаўза.*

(Працяг са стар. 2)

## У МІЛЕЙЧЫЦАХ

трактары раздзяляла спецыяльная камісія ў павеце.

Малады селянін Пётр Пінчук разам з бацькам гаспадарыць на 20 гектарах зямлі ў вёсцы Сабяціна. Закончыў сельскагаспадарчую школу і хоча, каб яго гаспадарка была прыкладам для іншых. Трактар сапраўды яму неабходны. Аднак начальнік Мікалай Бартнічук і сакратар Валя Герасімюк бездапаможна разводзяць рукамі.

— Мы не ведаем, як гэтую справу аформіць, — гавораць шчыра і спешна гартаюць паперы, каб знайсці адпаведную інструкцыю. Інструкцыя аднак адносіцца да папярэдняга перыяду, а новай яшчэ не прыслалі... Малады селянін толькі болей чырванее ад злосці і выходзіць з кабінета.

Званю ў ВЗГС. Намеснік загадчыка аддзела сельскагаспадарчых машын і прылад паясняе мне:

— Фармальна і канчаткова гэтая справа сапраўды яшчэ не вырашана. Наколькі мне вядома, сельскагаспарчы аддзел ваяводскага ўпраўлення мае цяпер раздзяляць трактары на паасобныя гміны, а гміны — асобным гаспадарам. Атрымаўшы прыдзел, гаспадар паедзе ў раённую базу сельскагаспадарчых машын і, там заплаціўшы за трактар, вернецца на ім дамоў.

Будзем спадзявацца, што гэтая сістэма продажу дэфіцытных сельскагаспадарчых машын хутка ўжо распачне дзейнічаць. Пакуль што, на жаль, здараецца сялянам, як хаця б Пятру Пінчуку, пакідаць кабінеты начальнікаў з пустымі рукамі. Ведаю, што гэта клопаты пачатковага перыяду рэформы. Без іх ніводная новая справа не абыйдзецца. Праз кароткі час усе яны ўладкуюцца.

**М. Нурэцкі**

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### Сяргей Анапюк



Сяргей Анапюк з вёскі Мора з'яўляецца адным з лепшых гаспадароў у гміне Чыжы. Мае не толькі вельмі прыгожы дом, пабудаваны 3 гады таму назад, жалезную агароджу, але і добрыя сельскагаспадарчыя будынкі. Раней спецыялізаваўся ён у вырошчванні буракоў. Атрымаў нават узнагароду — апеляч для праполкі пустазелля. Цяпер сее рапс (рапак) на плошчы 2,5 га і прадае яго дзяржаве ў сярэднім 3,5 тоны ў год. На пункт скупкі дастаўляе 7 тысяч кілаграмаў збожжа, а таксама не менш свініны і ялавічыны. У маі г.г. прадаў ён дзве каровы вагой 4900 і 4300 кг. Абедзве пайшлі ў першы сорт.

Вопытны земляроб з Мора купляе штогод мінеральных угнаенняў на суму 8 тысяч злотых і за сельскагаспадарчыя паслугі плаціць мясцоваму сельгасгуртку 15 тыс. злотых.

Варта адзначыць і тое, што Сяргей Анапюк ужо амаль 20 гадоў з'яўляецца адным з актыўнейшых членаў праўлення сельскагаспарчага гуртка ў Моры, які зараз карыстаецца 15 трактарамі і ўсімі падвеснымі машынамі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

Ад іх залежыць і распланаванне сеткі гадзін у школе, што нярэдка выходзіць на некарысць беларускай мове. Шырока прымяняецца практыка спалучэння класаў двух, а часам і трох, пры гэтым не толькі па прычыне іх малалікасці.

У такім умовах настаўнікі беларускай мовы не могуць зрабіць многа. Не маюць яны большага ўплыву на арганізацыю працы ў школе. Таму выказванні С. Яновіча з'яўляюцца крыўднымі для шматлікіх педагогаў, галоўнае заданне якіх — добрасумленна вучыць маладое пакаленне.

На заканчэнне хочацца падкрэсліць аграмаднае грамадскае значэнне навучання роднай мове, як **аб'ектыўнай** патрэбы ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Народная ўлада паклала на ўсіх грамадзян нашай краіны роўныя абавязкі, даючы ім адначасова роўныя правы. Дала яна беларускаму насельніцтву права, а таксама стварыла магчымасць для развіцця сваёй культуры, сваёй мовы. Навучанне беларускай мове з'яўляецца асновай асноў у жыцці нашай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Без ведання роднай мовы мы не зможам пазнаць сваёй багатай шматвяковай культуры і літаратурнай спадчыны.

**Віктар Швед**

ПІСЬМО ПАКЛІКАЛА У ДАРОГУ

## БЫЦЬ СОЛТЫСАМ

Атрымалі мы пісьмо з вёскі Турна Вялікая Сямяціцкай гміны, а ў ім адны скаргі на солтыса гэтай вёскі Аляксандра Жабюка. Паехалі мы на месца. Правялі размовы з аўтарам пісьма, жыхарамі вёскі і з солтысам. У пісьме абвінавачваўся солтыс грам. А. Жабюк за нездавальняючае вырашэнне многіх спраў жыхароў гэтай вёскі. Дагэтуль яшчэ многія з іх не забылі, чаму не атрымалі ніякай кампенсацыі за знішчэнні на сенажацях, выкліканыя разліўнымі рэкамі Бугам і Камёнкай. Толькі некаторыя, а ўжо ў першую чаргу сваякі ды больш знаёмыя атрымалі кампенсацыю ў выглядзе мінеральных угнаенняў. Так сцвярджалася ў пісьме.

Факт, не ўсе тыя, у каго былі затоплены лугі, атрымалі ўгнаенні. Значыць, солтыс і гмінныя ўлады ў Сямяцічах не змаглі давесці гэту справу да канца. Праўда, намаганні ішлі ў тым напрамку, каб высніць, што няма ўжо больш на гэта асобнага бюджэту ці грашовага фонду. Справе гэтай прысвячаўся адзін з вясковых сходаў. Аднак і на ім не паказаліся найбольш кампетэнтныя прадстаўнікі гмінных улад. Верым і словам солтыса, што не ўсе жыхары Турны любяць хадзіць на сходы. А мо нават не цікавяцца імі? Агульнавядома, што дзе-дзе, але на вёсцы нялёгка знайсці вольную хвіліну. Шкада толькі, што солтыс А. Жабюк не ўсім здолее паведаміць аб тым, што мае адбыцца сход і якой ён прысвечаны справе. Неаднойчы вывешвае картачку. Але ж яна нічога не вырашае. Вядома, што не ўсе адразу збягуцца, каб прачытаць гэткую запіску. Солтыс тлумачыць гэта яшчэ недахопам часу, а нават непрыхільнасцю да сваіх ініцыятыў з боку аднасяльчан. Гэта не здзіўляе. Солтыс тут не мае поўнага аўтарытэту. Так сказалі нам жыхары Турны, якіх мы сустрэлі.

Вядома, усім не дагодзіш, але солтысаўскі абавязак гэта не абы што. А Жабюк выконвае гэтую функцыю больш як шэсць гадоў. Мо за гэты час некаму не спадабаўся або наступіў, як гавораць, на балючае месца? Таму і не хочуць яго некаторыя. Але ўвогуле, на нашу думку, солтыс замала цікавіцца справамі ўсяе вёскі. Аб менш істотных абвінавачваннях солтыса не ўспомнім.

(ця)

## ВЕР-НЕ-ВЕР

### РАКА, МОСТ І БЕРАГ

*Дарагі Астрон!*

Прысніўся мне сон, што я з дзяўчатамі іду дарогай, даходжу да рэчкі, праз якую паложаны быў мост. Рака была нававыкапаная. Праз некалькі хвілін я апынулася ў рэчцы, у вадзе, разам з дзяўчатамі. Вада была чыстая, спакойная. Мы даўгавата хадзілі па вадзе і трэба было ўжо вылазіць. Але берагі не былі вельмі стромкія і пясчаныя. Я з вялікімі цяжкасцямі пачала вылазіць. Над берагам стаяла многа мужчын. Я падавала аднаму руку, каб мне памог вылезці, аднак ён мне не падаў. Мне было вельмі цяжка вылазіць, таму што за мае ногі пачапляліся дзяўчаты, яны таксама хацелі выйсці з вады. Аднак пасля вялікіх цяжкасцей мне ўдалося апынуцца на беразе.

**Ірэна з Беластока**

*Дарагая Ірэна!*

Ваш сон добры. Бераг — наогул азначае дасягненне пастаўленай мэты, поспех і радасць. Праўда, не абыйдзецца ўсё без нейкіх клопатаў і дадатковых цяжкасцей (бераг жа быў круты і вы ледзь на яго ўзабраліся). Ну, але хто ж гэтых клопатаў не мае! Тым больш, што вы, здаецца, маладая дзяўчына, а клопаты эратычнага паходжання ў гэтым узросце нікому не чужыя. Нейкія дзяўчаты перашкаджаюць вам у адносінах з сімпатый, аб цяжкасцях і нейкіх перашкодах сведчыць і мост, што быў перакінуты праз раку. Але не хвалюйцеся, усё скончыцца добра. За гэта прамаўляе не толькі тое, што вы ўсё ж дасягнулі берага, але і чыстая, спакойная вада, па якой вы хадзілі. Рака была нававыкапаная, дык можа гэта будзе нейкі новы, неспадзяваны поспех.

**Астрон**

## С(э)рдэчныя тайны

*Дарагое „Сэрцайка"!*

Даўно збіралася напісаць табе, бо рада твая мне вельмі патрэбная, але не мела адвагі. Саромелася. Пішуць да цябе пераважна маладыя, а мне ўжо 49 год. У мяне дарослыя дзеці — дачка і сын. Абое жанатыя, ды маленькіх унукаў двое. Рана, бо ў 35 год асталася я ўдавой. Ды і жыццё з мужам не было лёгкае. Муж піў. Былі ў нас сваркі і недастатак, бо муж сваю зарплату прапіваў, а мая была невялікая. Так пражылі мы 13 год, і аднойчы муж, моцна напіўшыся, паконччыў жыццё самагубствам. Асталася я з малымі. Усю сваю энергію накіравала я на тое, каб, як кажуць, вывесці іх у людзі. І ўдалося мне гэта. Цяпер у мяне добрая кватэра, працую, ды і свае грошы маю. Але восень пазнаёмілася я нядаўна з мужчынам-удаўцом, якому 52 гады. Пачаў да мяне прыходзіць. У яго таксама дзеці ўжо жанатыя. Жыве пры сыне. Спадабалася я яму, ды і мая кватэра, і хоча, каб я выйшла за яго замуж. На рабоце сяброўкі таксама кажуць, каб выходзіла, бо не старая ж яшчэ. Часамі ўжо і надумаюся выйсці, але як згану сваё мінулае, дык усе думкі як рукой адніме. А тут бачу, што і гэты мужчына любіць выпіць. Ды баюся, каб ізноў сабе новых клопатаў на старыя гады не набавіцца. Ён жа кажа, што каб не быў самотны (дзеці ж свае справы маюць), дык і не піў бы. Я аднак не веру, і дзеці таксама мяне асцерагаюць. А што ты, „Сэрцайка", мне параіш?

**Марыся з Беластока**

**Марыся!** Замуж выйсці, дык і я табе раіла б. Не старая ты жанчына і так самой жыць, калі няма да каго і рота адкрыць, таксама не цікава. Але, з другога боку, напэўна ўжо лепш жыць адной, чымсці з п'яніцам. Дык пастунай асцярожна. Мала ты ведаеш гэтага мужчыну, дык і не спяшайся выходзіць за яго. Праз нейкі час пазнаеш яго даскладней. І калі ўпэўнішся, што адпавядае ён табе, тады можаш рашыцца на шлюб.

**„Сэрцайка"**

## Куток практычных ведаў




### ЯК НАЙБОЛЬШ ПАВЕТРА

Вельмі многа гаворыцца наогул аб значэнні свежага паветра для развіцця дзіцяці. На жаль, найчасцей маткі немаўлякаў дрыжаць: „Каб хаця маё дзіцятка не прастудзілася..." Можна сказаць, што ў першыя тыдні жыцця дзіцяці гэта нават мае пэўнае значэнне, паколькі механізмы тэрмарэгуляцыі ў нованароджанага яшчэ не сфарміраваны да канца. Таму ў гэты перыяд жыцця дзіцяці трэба дбаць пра адпаведную тэмпературу памяшкання.

Не азначае гэта зусім, што дзіця трэба бараніць перад сутыкненнем са свежым паветрам. Летам дзіця, якому споўнілася два тыдні, трэба выносіць на паветра, але прызвычайваць да яго трэба асцярожна, паступова, спачатку выносіць дзіця на малы адрэзак часу, пасля — на даўжэйшы.

Вядома, што паветра на двары халаднейшае, чым у кватэры. Але гэта халаднейшае паветра якраз з'яўляецца мацнейшым стымулам для дыхальнага цэнтра. Дзіця дыхае на паветры глыбей, а гэта станоўча ўплывае на кровазварот. Дзякуючы гэтаму, праца органаў становіцца лепшай, і дзіця робіцца больш адпорнае на хваробу.

Дзіця, прывыкшае прабываць на свежым паветры, як кажуць, загартаванае, нават у некарысных атмасферных умовах не мерзне, а якраз ахаладжэнне цела спрыяе заражэнню рознымі хваробамі. Нават калі заразкі пранікнуць у арганізм такога дзіцяці, то яны хутка бываюць знішчаны.

Прагулка на свежым паветры толькі тады не мае сэнсу для дзіцяці, калі яно занадта цёпла накрыта або апранута і пацее. Тады сапраўды можна вельмі лёгка дзіця прастудзіць, паколькі механізм тэрмарэгуляцыі, і так яшчэ не занадта спраўны, нарушаецца. Адпорнасць спацеўшага дзіцяці, акрамя таго, значна меншая.

Трэба яшчэ сказаць, што некаторыя маладыя маткі робяць „перагібы" ў адваротны бок. Пунктам гонару для іх з'яўляецца загар. Возяць дзіця па сонцы, часам самі схаваюцца ў цені, а каляску з дзіцём выстаўляць у самы поўдзень на сонца. Яны думаюць, што калі іх дзіця загарыць, як „негр", то гэта вельмі добра.

Як яны памыляюцца! Скура, стаўшая цёмнакарычневай, вельмі слаба прапускае пазафіялетавыя промні, якія абераглоць дзіця ад рахіту (кшывіцы). Акрамя таго занадта моцнае насвятленне сонцам можа выклікаць апёкі скуры, а нават і падражненне мозгу. Такім чынам, з загарам лепш не перасольваць! Каляску трэба заўсёды ставіць у паўцені пад дрэвам, так, каб промні сонца даходзілі да дзіцяці „аслабленыя".

Сонечныя промні, якія прымаюцца ў адпаведных дозах, пабуджаюць абмен рэчываў, паляпшаюць кровазварот, працэсы тэрмарэгуляцыі, ну і супрацьдзейнічаюць узнікненню рахіту.

**Эскулап**

## Фота па заказу



Сергей Захаров

*Заказвала Еля Кірылюк з Бельска.*

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**ПЫТАННЕ:** Б. 18 гадоў, але ён нідзе не працуе. Ведаюць яго ў ваколіцы, як лодара і хулігана. Спусціў каня суседа... Конь улез у агарод удавы С. і знішчыў гародніну. С. — жанчына бедная, і для яе гэта вялікая страта. Ад каго яна можа патрабаваць кампенсацыі? Уласнік каня гаворыць, што адказны за шкоду Б., але ад Б. нічога не возьмеш, бо ён нічога не мае. Ці можна патрабаваць кампенсацыі ад бацькі Б.?

**АДКАЗ:** Б. ужо 18 гадоў, з'яўляецца ён паўналетнім, таму бацька яго не можа адказваць за страту, выкліканую сынам. Ён сам адказвае за гэта. Аднак, калі няма перспектывы на тое, што можна будзе атрымаць кампенсацыю ад Б., можна патрабаваць гэтага ад уласніка каня. Праўда, віны яму прыпісаць нельга, але арт. 431 § 2 Цывільнага кодэкса прадбачыць, што асоба, якая трымае жывёлу, хоць бы не была вінаватай, абавязана кампенсаваць шкоду, выкліканую жывёлінай, калі з абставін, асабліва параўнання маёмаснай сітуацыі выніквае, што патрабуюць гэтага прынцыпы грамадскага сужыцця.

---

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ




Яны яшчэ паўслухоўваліся, марцвеючы ад празмернае ўвагі, затым немец выдыхнуў, неяк абвяў з цела і пачаў паволі прыладжвацца ў сцяне запальнічку. Баец закашляўся, зацяў рот далонямі. Крокаў болей не было чуваць.

— От папалі дык папалі, — не так немцу, як самому сабе сказаў Валока, выдыхаючы ў трапяткую цемру зацяжку. Немец звесіў з калень цяжкія напрацаваныя рукі і ўздыхнуў. Яго нядаўні, трохі бесклапотна-бадзёры настрой відавочна прыхмурэў, — пэўна, ад працы ці мо ад гэтага трывожнага клопату.

— Вайна нікс гут! — раптам прыцішана, але з нахабнелай упэўненасцю азваўся ён, і баец ажно здзівіўся ад гэтае перамены ў настроі ворага. — Вайна— шайзэ!

Немец сказаў гэта з нейкім трудным, зацятым адчаем у вачах. Валока, трохі развязўшы рот, недаўменна, з прыхаванай іроніяй паглядзеў на яго.

— Во як: не гут! Чаму ж ты гэта не скажаш свайму фэрэру?

— Фюрэр — шайзэ! — строга абвясціў немец, відаць, толькі адно гэтае слова і зразумеўшы з доўгай Валокавай фразы. — Фюрэр сволач! Фюрэр эйнфахерменш нікс нада, — сказаў ён і стукнуў сябе кулаком у грудзі. — Фрыц Хагеман нікс нада вайна. Хагеман нада фрыедэн, нада кіндэр ауфцыген, арбайт нада, хаўз нада! Шайзэ вайна!

Валока зразумеў не ўсё, але ўцяміў прычыну абурэння гэтага немца, толькі спачуваць яму ён не збіраўся. Немец жа, мусіць, выліў свой даўні гнеў і на хвіліну змоўчаў. Баец тым часам дакурыў цыгарку і ўрэшце, наважыўшыся на тое, што ўвесь час непакоіла яго, сказаў:

— Слухай, Фрыц. Вылезем туды, — ён паказаў пальцам угору, — давай палон. Рус плен — і вайна капут. Га?

Немец уважліва выслухаў, нешта зразумеў, але з раздумнаю цвёрдасцю пакруціў галавой.

— Нікс плен. Плёхо плен. Рус энкеведэ дойч — Сібір. Пуф-пуф дойч.

— Ніхто цябе не будзе пуф-пуф. Чаго ты баішся? — загарачыўся Валока. — Ты ведаеш, колькі ў нас вашых камарадаў плен?

Фрыц зноў уздыхнуў, нявесела ўглядзеўся ў агеньчык запальнічкі ў сцяне. З ягоных вачэй выплыла і атуліла ўвесь твар туга чалавека, які колькі ні прыкідваецца сам сабе, як ні абнадзейвае сябе, а ўсё ж ніяк не можа пазбыцца вялікага і нязбытнага, як смерць, клопату. Задумаўшыся, ён трошкі памаўчаў, пасля заварушыўшыся, расшпіліў кішэнь мундзіра і дастаў нейкія паперы. Перабраўшы іх, знайшоў там надарваны канверт з пацёртымі краямі і дастаў адтуль картку.

— Майн фрау унд кіндэр. Дрэздэн, — сказаў ён і падаў картку байцу. Той няўмела, з ашчаднаю зважлівасцю да чужога, але зразумелага і па-чалавечы дарагога наблізіў картку да слабенькага святла запальнічкі.

З фатаграфіі на яго пазіралі жанчына і трое малых. Старэйшы — галанногі хлапец у кароткіх штоніках стаяў каля крэсла, дзяўчынка сядзела на каленях у маці, сярэдні — хлопчык год дзесяці — стаяў ля старэйшага і трымаў пад пахай паласаты мячык. Ззаду віднеўся невялічкі, але ладна адбудаваны і дагледжаны домік з верандаю, высокі чарапічны дах, у прасценках густая лістота вінаградніку. На хвіліну баец ажно ўпіўся ў гэта вачмі.

— Ладная дамоўка, нічога не скажаш, — уздыхаючы, прагаварыў Валока, адчуўшы ў душы ціхенькі самотны боль не то ад разбуджанага суму па спрадвечнаму, мірнаму, гаспадарчаму жыццю, ці мо ад успамінаў аб сваіх там, дома... З прытоенай зайздрасцю і скрухаю ён аддаў картку назад.

— Драй кіндэр! — сказаў Фрыц, хаваючы ў кішэню паперы. — Плёха плен. Гаўптман гестапа Крафт шрайбэн, — фраў, кіндэр ком, ком унд канцлерег. Плёха!

Валока зразумеў. Пэўна ж так, яны, гэтыя немцы, не дужа там няньчацца і са сваімі — ён ужо чуў, што за такія справы сем'і гэтых фрыцаў па галовах гладзяць. Ну, але што ж тады ім рабіць?

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## „Празнік празнікам"

На з'ездзе карэспандэнтаў многа гаварылася аб моладзі, і я сёння хачу на гэтую тэму пару слоў сказаць.

У Новаберазове на Івана быў одпуст. Стаю з калегамі, гаворым аб былым, аб цяперашнім, дзе хто падзеўся са знаёмых. Падыходзіць вучань можа сёмага, можа восьмага класа — вочы шкляныя. Прыглядаюся лепш, а ў яго на шыі — хоць ты рэдзьку сей. Дастае з кішэні папяросы „Спорт" і кажа: „Трэба закурыць". Пытаюся: „Ад калі ты курыш і хто табе пазволіў?" Ён смяецца: „На тое і празнік, што, нельга закурыць?" Што было мне гаварыць больш?! Паўстыдаў, але ці гэта паможа?

Цяжка выхоўваць дзяцей, а тым больш падлеткаў, але калі б часцей гаварыць ім што можна. а чаго нельга? Дзеці дзецьмі, але і дарослыя павінны адпаведна сябе весці і даваць добры прыклад.

Празнік празнікам. Можна сустрэцца тады са знаёмымі, падтрымаць традыцыю дзядоў і бабак. Многія аднак думаюць па-іншаму. У іх, як свята, дык на першым плане алкаголь. Бяруць бутэлькі з півам, сядаюць у кола і пачынаюць успамінаць. Я не супраць гэтага. Але, калі хочуць рабіць такія сустрэчы, дык не пад дрэвам на вуліцы. Не хачу тут крытыкаваць Новаберазова, так наогул усюды сустракаецца. Я хацеў толькі даць прыклад, як не павінна быць.

**Пякучы**

### ТРЫ ПРЫПЫНКІ, А ДЗЕ ЧАКАЦЬ?

Едучы з Гайнаўкі бельскай шашой, ля скрыжавання дарог Дубічы Асочныя — Новаберазова ўбачыш пабудаваныя аж два прыпынкі, трэці, стары, таксама яшчэ стаіць. Новыя прыпынкі выглядаюць прыемна. Пакуль што! Стары таксама выглядаў некалі прыемна, а што цяпер? Усяго тут можна даведацца, чытаючы надпісы. Адным словам, цяжка сказаць, што гэта ўжо прыпынак. Будуюць іх людзям, і толькі людзі не ўмеюць шанаваць грамадскае дабро. Самі сабе вінаваты.

Два новыя прыпынкі пабудаваны далёка ад скрыжавання адзін з правага боку дарогі, другі — з левага. Усё было б добра, калі б аўтобусы хадзілі толькі па шашы. Тады ўсім было б вядома, на які прапынак ісці. Але вось, калі прыдзецца ехаць з Новаберазова на Беласток, тады невядома, дзе чакаць. Добра было б, каб на інфармацыйнай дошцы было напісана, на якім прыпынку чакаць аўтобуса на Беласток.

**Пякучы**




### КАЛІНА

*Сябру Міхасю Хмялеўскаму прысвячаю*

Мова не аб той каліне,
Што расце ў гаю ў даліне,
Што цвіце малочным цветам
Позна ўвесну, раннім летам.
А размова аб Каліне,
Што начальнікам у гміне,
Што падобныя каліны
Быць ў начальстве не павінны.
Ён такую слабасць мае,
Што людзей не паважае.
Носіць ён высокі стан —
Усё роўна „ясны пан".
Ў часах нашых гэта ж дзіва! —
Зацікавілася „Ніва".
Паімчаўся журналіст
Міхасёк, наш актывіст.
У пакой Каліны ўходзіць,
Пачаў гутарку заводзіць.
Злосцю закіпеў Каліна.
Гукнуў — анямела гміна —
(О! Ў Каліны дысцыпліна,
Муха послух мець павінна):
— Чаго ўлез не ў час, не ў пору,
Без дазволу й дагавору!?
Прэч да яснае халеры!.. —
Міхася шпурнуў за дзверы.
Выляцеў Міхась на двор,
Хоць не быў ў тым дагавор.
О! Каліна — пан муровы,
Звонку і нутром здаровы,
Боксу толькі дай адточку —
Ўсё! Кладзі на смерць сарочку.
Ды Каліна з іншым густам,
Замкнуў дзверы на два спусты,
Выгадна у крэсла сеў
І сядзіць, бы ў клетцы леў.
Барані Бог, людзі, вас
Ад Каліны...

**Дзядзька Квас**

## Сабе і грамадству

У Чаромхаўскай гміне многа ўвагі прысвячаецца грамадскай працы. Ужо два гады будуюць зубачоўскую дарогу чыгуначнікі, настаўнікі і вучні чаромхаўскіх школ, жыхары навакольных вёсак Зубачы, Баброўка, Тэрэзішча, працаўнікі дзяржаўных устаноў чыгуначнага пасёлка. Дарога ўжо выканана на 9 км. Застаўся невялікі адрэзак — каля 1 км, які, думаю, да канца гэтага года будзе закончаны.

Апрача таго, чыгуначнікі чаромхаўскай станцыі многа працы паклалі ў перабудову і аднаўленне вуліцы Каляёвай. Кошт гэтай інвестыцыі ацэньваўся пачаткова на суму 1 млн. 248 тыс. зл. Гміннае ўпраўленне, якое ўзначальваюць начальнік мгр інж. Сяргей Сац і сакратар Мікалай Кулік, вырашыла выканаць працу гаспадарчым спосабам. І ўдалося ім гэта. Цяпер можна сказаць, што перабудова вуліцы Каляёвай на адрэзку 680 м будзе каштаваць толькі каля 800 тыс. зл. Гміннае ўпраўленне зберагло 450 тыс. зл. Ці гэта не сапраўдная гаспадарнасць? Такіх поспехаў немагчыма дабіцца без дапамогі людзей. І таму трэба абавязкова сказаць тут аб чыгуначніках паравознага дэпо, якія на ўсёй даўжыні вуліцы выкапалі адвадняючыя равы, тасама выканалі шмат іншых зямельных прац. Многа папрацавалі таксама чыгуначнікі ўсіх іншых чыгуначных устаноў.

Нельга не сказаць аб дапамозе Дырэкцыі чыгуначнікаў у Варшаве, якая прызначыла на гэтую інвестыцыю 600 тыс. зл. Яна таксама схільна пакрыць кошт пабудовы адрэзка Каляёвай вуліцы, які вядзе на чыгуначную станцыю, як толькі знойдзецца выканаўца.

Неаднойчы даводзілася бачыць чаромхаўскіх чыгуначнікаў у час працы. Не чуваць было ніякіх скаргаў. Наадварот, гаварылі: „Гэта ўсё робім сабе, нікому іншаму". Сапраўдная сяброўская атмасфера была неадлучным дапаможнікам у працы жыхароў рабочага пасёлка.

**Мацейка**

### СТАРЭНЬКАЯ МАЦІ УСЁ ЧАКАЕ СЫНА

Колькі добрых людзей загінула ў вайну за тое, каб іншыя людзі былі вольнымі і шчаслівымі! Колькі маці, сыны якіх загінулі, не спяць спакойна па начах! Яны ўсё чакаюць што іх сын вернецца.

Асабіста ведаю старэнькую 90-гадовую маці, якая і слухаць не хоча, што яе Ваня не жыве. Яна кожнаму даказвае, што яе сын дзесьці выконвае спецыяльнае заданне і таму не можа вярнуцца дамоў. Спачатку дочкі адводзілі яе ад гэтай думкі, а потым перасталі. Няхай верыць, што Ваня, які маладым у 1941 годзе пайшоў на фронт, і ў далейшым змагаецца за мір. Старая маці рада, што яе сын з'яўляецца адным з герояў. Не, яна не плача. Яна толькі чакае, каб Ваня паспеў прыйсці дамоў хоць на гадзінку перад яе смерцю, каб змагла паглядзець на яго і накарміць вясковым баршчом...

**Васіль Петручук**




**Пазнаёмімся.** Мне 22 гады. Закончыў я прафесіянальную школу. Працую механікам. Жыву ў Варшаве. Цікаўлюся літаратурай, тэатрам, фільмам, турызмам, таксама культурнымі імкненнямі вясковай моладзі. Хачу перапісвацца з маладымі і асабліва з тымі, якія маюць падобныя зацікаўленні. Пісьмы прашу пісаць да мяне па адрасу:

*Mikołaj Sobieszuk*
*ul. Wrzeciono 30*
*01-963 Warszawa*

Прыемна, што сваё пісьмо Мікалай напісаў добра па-беларуску.

**Пастаянны чытач з Нараўкаўскай гміны.** Высылковы продаж запасных частак да матацыкла „Юнак 350" вядзе PP „Polmozbyt" w Łodzi, ul. Strykowska 15 (kod 91-725).

**Я. В. з Гайнаўкі.** Адпаведна з § 2 ust. 1 pkt. 7 (Dz. U. nr 3 poz. 16) не траціце вы права да пенсіі (эмерытуры), паколькі гадавы даход з вашай гаспадаркі не перавышае 14.000 зл. (ця)

## Вада залівае вуліцу

Некалькі год таму назад Гарадское прадпрыемства камунальнай гаспадаркі ў Гайнаўцы пабудавала кусок вуліцы Ліповай — ад вузкакалейкі да вул. Славянай. Насупраць сялібы Бірыцкіх быў выкапаны пропуст на ваду. Пасля дажджу ўся вуліца заліта вадою, што ані праехаць, ані прайсці. Пропуст занясло мулам, адвадняючыя равы зараслі.

Пра ўсё гэтае ведае кіраўніцтва гарадской камунальнай гаспадаркі, але нічога не робіць. А ўсе жыхары вул. Ліповай звяртаюцца да дырэктара — напраўце пропусты, няхай вада не залівае вуліцу і агароды!

**Раса**

### КУТОК ЦІКАВЫХ ЛЮДЗЕЙ



У гэтым нумары „Нівы" госцьмі ў нашым куточку з'яўляюцца Люба і Кандрат Андрэюкі. Яны вядуць бібліятэчны пункт у Зубаве, Бельскай гміны. Бібліятэка налічвае 354 кніжкі і каля 115 чытачоў, сярод якіх найбольш моладзі (42 асобы), потым ідуць гаспадары (29 асоб), разумовыя працаўнікі (18 асоб), фізічныя працаўнікі (11 асоб). Бібліятэкары добра ведаюць сваю бібліятэку і добра ўмеюць выбраць кожнаму цікавую для яго кнігу.

**Жэня Аўсенюк**

## Будка

У горадзе Гайнаўцы на вуліцы 1-га Мая стаіць будка, у якой рамантуюцца гадзіннікі. Гэтая рамонтная будка часта бывае закрыта. Можаш сто разоў прыходзіць пад дзверы і ані разу не даведаешся, калі трэба прыйсці сто першы раз.

З тэрміновай направай у Е. Петрушкевіча справа выглядае вельмі брыдка: вызначае тэрміны, якіх не прытрымліваецца.

Здараюцца і такія „направы", што як вернецца чалавек дамоў, напраўлены гадзіннік ужо не працуе. А грошы дык узяў салідныя. Вось табе і будка!

**„Крыніца"**

### УПРАЎЛЕННЕ ГОРАДА ГАЙНАЎКІ

Гарадское ўпраўленне ў Гайнаўцы змяшчалася раней у цесным памяшканні на вул. М. Бучка. Ад 1 ліпеня, у сувязі з рэформай адміністрацыі, звольніўся будынак павятовага ўпраўлення, і Упраўленне горада пасялілася ў ім. Тут добрыя ўмовы працы, добрае абсталяванне.

Начальнікам горада Гайнаўкі стаў заслужаны і вопытны дзеяч Анатоль Гіншт.

**Э. Вайсковіч**

### ГУРТОК БГКТ У ЧАРОМСЕ

Дырэктар пачатковай школы ў Чаромсе Мікалай Міхалюк арганізаваў гурток БГКТ. Дэкларацыі падпісала 5 асоб. Члены чаромхаўскага гуртка — гэта настаўнікі. Старшынёй выбралі М. Міхалюка. Як паведаміў мне дырэктар — найважнейшы план на будучыню ў іх — гэта разбудова арганізацыі. У бліжэйшы час будуць праводзіць размовы з працаўнікамі гміннага ўпраўлення, а таксама з некаторымі старэйшымі жыхарамі пасёлка.

**Мацейка**

### МЕХАНІЗАЦЫЯ І ХІМІЗАЦЫЯ

Часта ў полі ў час жніва пачуеш: „Каб старыя бачылі, як цяпер робіцца на гаспадарцы, якія цяпер машыны, то б у магіле перавярнуліся". І сапраўды — механізацыя гурмам ідзе ў вёску. Хто цяпер бачыць каго з сярпом? Цяпер усё машынамі. Косяць і жнуць, сушаць і малоцяць, сеюць — таксама машынамі. Аднак механізацыя — гэта не ўсё. Хімізацыя таксама важная справа. Ці людзі сабралі б многа чаго з гектара, каб не сеялі мінеральных угнаенняў, ці не апырсквалі раслін?

**Валянцін Анапюк**

## Дваццаць год

У вёсцы Вярхлессе, гміны Шудзялава, крамаром з'яўляецца Тадэуш Філановіч, які ўжо 20 год стаіць за прылаўкам. У краме ў яго ўсё купіш, што патрэба ў гаспадарцы. Тадзё ветліва адносіцца да пакупнікоў, на яго няма скаргаў. У краме ў Вярхлессі не бывае манка. А прадаўшчык так гэта тлумачыць: не бяры — само не ўцячэ.

**Т. К.**

### САКОЛЬСКІЯ ШАФЕРЫ

Сакольская экспазітура ПКС абслугоўвае ўсе навакольныя мясцовасці. Толькі як? Пасажыры незадаволены. Напрыклад, 14.06 г.г. аўтобус № АН 6241 згодна з планам павінен быць выехаць з Крынак у Саколку ў 13.30 а ад'ехаў у 14 гадзін. Пасажыры — 30 асоб, чакалі. А шафёр аўтобуса пайшоў пагутарыць са сваімі знаёмымі. На пытанне пасажыраў, чаму спазніўся, адказаў, што гэта не яго курс, і што падждаў большай колькасці людзей.

Ці не лепш было б жыць, каб шафёры з Саколкі добра ведалі курсы аўтобусаў і свае абавязкі?

**Я. Бандарук**

## Супраць пажараў

Шчаслівы той, хто жыве над рэчкаю. Летам можна пакупацца, у вольную хвіліну пасядзець з вудачкаю. Аднак самую важную ролю адыгрывае рака ў супрацьпажарнай акцыі, як натуральны рэзервуар вады. Там дзе няма вадасховішчаў, цяжка змагацца з агнём. Таму ў многіх вёсках людзі будуюць супрацьпажарныя басейны. Вось, напрыклад, у Кнарыдах ёсць іх два.

У 1973 годзе пачалі будаваць пажарнікі басейн для сваіх патрэб. Закончылі ўжо ў наступным годзе. У 1974 годзе жыхары Кнарыд выкапалі другі басейн — у рамах меліярацыі. Абодва басейны выбетанаваны, абгароджаны сеткай. Варта пахваліць за гэта кнарыдаўцаў.

Яшчэ прыгажэйшы аб'ект пабудавалі ў мінулым годзе жыхары суседняй вёскі — Мокрае. Такога вадасховішча можа пазайздросціць ім не адна вёска. Басейн прасторны, абгароджаны сеткай. Зараз за варотамі клумбы кветак. Прыемна паглядзець. А ўсё гэта зрабілі людзі, для якіх грамадская справа такая ж важная, як і свая ўласная. Няхай Мокрае і Кнарыды будуць прыкладам іншым вёскам.

**Мацейка**

## У Зубаве

Пра вёску Зубава пісалі ўжо не раз. Жыве тут каля ста гаспадароў. Многа моладзі, але амаль усе вучацца ў гарадах.

У вёсцы ёсць вялікі магазін. Гэта вялікая карысць і жыхарам вёскі Зубава і суседнім. У магазіне купіш усё, што трэба. Прадае Аляксей Паўлючук са сваёй жонкай. У магазіне стаіць ён ужо многа год. Абое гэтыя людзі дбаюць, каб людзям нічога не бракавала.

**Кацярына**

### УСЁ ТУТ КУПІШ

Ніводная, бадай, вёска не можа пахваліцца такім прыгожым паслуговым павільёнам, як Рыбакі-Бандары. Сюды прыязджаюць людзі здалёк, каб купіць тое, што ім патрэбна. Продаж вядзе чатырохасабовая кадра прадаўшчыкоў. Здавалася б — усё закончана, усё ў парадку. На жаль, не!

Кіраўніцтва ГС у Міхалове забылася абгарадзіць гэты павільён, пасадзіць кветкі, паставіць стаянкі для веласіпедаў, вызначыць месца для фураў. Калі і ў далейшым міхалоўскі ГС не зробіць гэтага, дык у хуткім часе каля павільёна будуць ляжаць горы смецця.

**Крыніца**




„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



# КОНЬ

Карасяк дастаў з паштовай скрынкі ліст на афіцыйным бланку, уважна прачытаў, працёр вочы, прачытаў зноў і зайшоўся рогатам. Смяяўся так, што суседзі ўстрывожана высыпалі ў калідор і глядзелі на яго са спагадай, лічачы, што ён з глузду з'ехаў. У пакоі ён перачытаў ліст яшчэ раз — там было распараджэнне неадкладна ўнесці падатак за каня.

Усю ноч Карасяка разбіраў смех. Раніцай, аднак, ён вырашыў усё высветліць і падаўся ва ўпраўленне.

— Як вы можаце цвярдзіць, што каня ў вас няма, калі ў дакуменце чорным па беламу напісана, што ён у вас ёсць, — здзіўляўся службовец.

— Гэта памылка, — намагаўся давесці Карасяк. — Як, на вашу думку, мог бы я трымаць каня на трэцім паверсе?

— Справа густу, чаго толькі на свеце на бывае! На жаль, не маю часу на гутарку. Каса направа.

Карасяк вырашыў не здавацца: напісаў, што ўсё гэта — непаразуменне, і плаціць, зразумела, ён не збіраецца. Было ўжо і забыў пра гэтага дзіўнага каня, якбы не новае нагадванне пра падатак. Калегі па рабоце іранізавалі, раячы запасціся сенам на зіму, і наогул насміхаліся, як толькі маглі. Карасяк адчуваў, што цярпенне канчаецца. Ён адпрасіўся з працы і пайшоў да загадчыка.

— Нічым не магу дапамагчы, — развёў рукамі той. — У нашых паперах вы фігуруеце, як уласнік каня.

— А што трэба, каб не фігураваць? — пацікавіўся Карасяк.

— Прадаць.

— Але ж, к чорту, у мяне няма ніякага каня! — не вытрымаў Карасяк.

— Спачуваю, але спяшаюся на нараду, — устаў загадчык.

Гісторыя набыла агалоску, і нейк да Карасяка дамоў з'явілася камісія з жыллёвага ўпраўлення.

— Нам стала вядома, што вы трымаеце каня, а гэта катэгарычна забаронена.

Карасяк выправадзіў камісію за дзверы і зняможана ўпаў у крэсла. Ён быў у такім стане, што нават не зразагаваў, калі яго пакінула нарачоная.

— Або я — або кабыла, — сказала, звяртаючы яму пярсцёнак.

Тымчасам афіцыйныя лісты і надалей надыходзілі. І ўсё больш пагрозлівыя. Карасяк не сядзеў, склаўшы рукі — хадзіў па ўпраўленнях, пісаў у рэдакцыі ды адміністрацыйныя органы. Дзеля гэтага яму давялося нават кінуць працу. Калі раней ён быў чалавекам вясёлым і таварыскім, дык цяпер стаў адлюдкам. Нехта са спачуваннем параіў яму звярнуцца да пэўнай адказнай асобы.

— Нечувана, каб такая простая справа столькі цягнулася! — сказала асоба. — Мы яе вырашым кардынальна.

Праз дзень прыйшло паведамленне, дзе гаварылася, што за працяглае парушэнне правіл эксплуатацыі жыллёвых памяшканняў грамадзянін Карасяк падлягае высяленню. Упершыню за многа месяцаў ён адчуў сябе так, быццам з яго зваліўся цяжар. Карасяк пайшоў у ашчадную касу, узяў свае ашчаднасці і... купіў каня.

**Фелікс Дарэцкі**





### З франтавога гумару

## ПА РЭЦЭПТУ ГЕБЕЛЬСА

— Асмелюся далажыць, гер обер-лейтэнант, непрыемная зводка: тры тысячы забітых, дзве тысячы пяцьсот трапілі ў палон...

— Ах, наіўны чалавек! Пішы, як вучыць Гебельс: „Тры тысячы трывала замацаваліся на занятых рубяжах, дзве тысячы пяцьсот перасеклі савецкую лінію фронта і паспяхова рухаюцца на ўсход, не сустракаючы супраціўлення савецкіх войск“.

МІНІВЕРСЫ

## ІЛГУН

Ці сур'ёзна,
Ці то смехам, —
Не адразу разбярэш —
Нагаворыць цэлы мех вам,
Не пад'еўшы, не звязеш.
Без маны пампэ дый годзе,
Як п'янчужка без віна,
У лік двухтысячнага года
Нахлусіў, відаць, спаўна.

**Ул. Немізанскі**

...Ён гладзіў нават тады, калі начальнік прасіў пацерці.

...Ён ніколі не паўтараў чужых памылак. Рабіў толькі ўласныя.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Елі Кірылюк з Бельска змяшчаем песню на словы Сяргея Ясеніна*

## КОРОЛЕВА

Пряный вечер. Гаснут зори.
По траве ползет туман.
У плетня на косогоре
Забелел твой сарафан.

В чарах звездного напева
Обомлели тополя.
Знаю, ждешь ты, королева,
Молодого короля.

Коромыслом серп двурогий
Плавно по небу скользит.
Там, за рощей, по дороге
Раздается звон копыт.

Скачет всадник загорелый,
Крепко держит повода.
Увезет тебя он смело
В чужедальни города.

Пряный вечер. Гаснут зори.
Слышен четкий храп коня.
Ах, постой на косогоре
Королевой у плетня.

## АДБІЎ АХВОТУ

Маленькі Янка, якому вельмі карцела паспрабаваць курыць, сцягнуў у бацькі люльку, тытунь і запалкі. Закурыў. І раптам — ідзе бацька. Праз нейкі час хлопчык з плачам падбег да маці.

— Чаго ж ты плачаш?
— Я курыў і тата злавіў мяне.
— І моцна ён цябе біў?
— Не, зусім не біў? Ён прымусіў мяне, каб я выкурыў усю люльку.




## ЧАМУ КАЗАК ПАДОБНЫ ДА ПАНА?

У аднаго пана было шмат маёнткаў. Вось прыехаў той пан нейк у сваю слабаду, а эканом і прысылаў да яго казака з паперамі з другой слабады. Глянуў пан на казака — здзівіўся; маўляў выліты другі ён сам стаіць перад ім. Вось ён і пытае казака:

— Ці не была твая маці прачкаю ў святліцах у майго бацькі?

— Не, ніколі не была, — адказаў казак, — толькі мой бацька восем год тапіў у святліцах печы пры старой пані.

1



2



3



*Не біце мух у новай кватэры!*

## ПАСТАЯННА Ў ЧАКАННІ

Сустрэліся хапугі.

— Як пажываеш? — пытае адзін.

— У пастаянным чаканні! — адказвае другі. — Калі мне дрэнна — чакаю хуткую дапамогу, калі добра — міліцыю!

## ТРЭБА САМОЙ ВЕДАЦЬ

Падыходзіць цыганка да жанчыны на рынку і кажа:

— Дай мне дваццаць злотых і руку, а я табе паваражу.

Тая дала. Цыганка пачала пляскаць ўсякую ўсячыну. Урэшце жанчына спыніла яе:

— Нагаварыла ты мне шмат, а праўды не сказала. Нават не сказала, ці ёсць у мяне муж і дзеці.

А тая ёй:

— А ты, золатка, хіба сама не ведаеш, хто ў цябе ёсць?




## ДАЗВОЛ НА ШЛЮБ

Дзяўчаты цяпер самастойныя — амаль ніколі не пытаюць дазволу бацькоў, калі збіраюцца выйсці замуж. А вось у Англіі давадзіцца... Праўда, бацькі тут ні пры чым. Як паведамляе газета „Сандзі мірор“, у будаўнічай індустрыі Англіі пануюць звычаі, характэрныя яшчэ для часоў Дзікенса — работніца не мае права выйсці замуж без дазволу свайго боса. Інакш — прэч за вароты, і шукай сабе іншую працу, якую, дарэчы, нялёгка знайсці.

## НОВЫ РЭКОРД

Роўна шэсць сутак, гэта значыць 144 гадзіны, выступаў з прамовай дваццацігадовы Цім Харці з горада Кун Рапідз у ЗША. Да таго ж гаварыў так складна, быццам чытаў. Устанавіўшы сусветны рэкорд працягласці гаварэння, ён урэшце сказаў: „Я маю яшчэ многа чаго расказаць, але мне вельмі хочацца спаць“.

## ТАВАРЫСТВА САПРАЎДНАЙ БАГЕМЫ

Заапарк у Таронта (Канада) мае больш даўгоў, чым наведвальнікаў. Таму Вальтэр Грэй, дырэктар заапарка, кінуўся на „пабочныя заробкі“. Чатыры гарыла малююць „аматарскія карціны“, нешта падобнае да абстрактнага жывапісу, і гэтыя карціны прадаюць за суму ад 30 да 50 долараў. Грэй называе сваіх гарыл „Таварыствам сапраўднай багемы“.

## П'ЯНЫ АЎТОБУС

„Пры праверцы высветлілася, што аўтобуса ў гаражы няма. Усе гаварылі, што ён часта прыязджае ў нецвярозым стане“.

*(З дакладной запіскі)*




Выходзячы з сябе, не забывайце ўваходзіць назад.